# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА №24

двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932

4 год выданьня




## МАРОЗ

Вось які благі мароз,—
Шчыпле вушы, шчыпле нос.
Мы адзелі рукавіцы,
А мароз нас не баіцца.

Як пачалі працаваць,
Сьнег лапатамі кідаць,
Накладаць яго на воз,—
Перастаў шчыпаць мароз


Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25





# Ашукаў

Апавяданьне Ал. Пальчэўскага
Малюнкі М. Гусева



Мароз асушыў вуліцу ў Клінкох. Лужыны ў лёд ператварыў, а балоты—у сухія груды. Ой, як надаела гразь, слота асеньняя! Дзе ні ступіш — мокра, абутку не набярэшся, анучкі ніколі ня высыхаюць.

Затое цяпер весела вучням. Загадзя выходзіць у школу пачалі. Кожны стараецца, каб найбольш вальнейшага часу было. Раней з дому выдзеш,—больш коўзацца будзеш, пакуль заняткі пачнуцца.

Гоман, крык нясьціханы стаіць за школьным гародам. Там на балоце канава замерзла, і цяпер вучні бавяцца тут у вольны час.

На-перабой чуюцца галасы:

— Уладзя, сьцеражыся!

— На бок саступі, Антось!

— Не падстаўляй нагі, а то палучыш!..

— А ты паглядзі, як я на аднэй назе імчуся,—крычыць Янучок.

А ў другім месцы і папракаюць і супакойваюць расплаканага Петрыка:

— А ты ня коўзайся, раз баішся болі.

— Якая там боль.. падумаеш! Ты помніш, як нос мне разьбілі? А гэта што! — махае рукою Кастусь.

Петрык і сам ня вельмі плакаў-бы, каб ня капала кроў на сьнег, не расплывалася па ім. А то вельмі жаль і баліць, здаецца, горш, як глянеш на чырвоныя плямы.

— А ты сьнегам прылажы — супакоіцца адразу,—раіць Грышка.

— Такі-та фэльчар,—сьмяецца хтосьці.

А гэтым часам школьны сторaж даўно ўжо звоніць. Ён адышоўся далей ад будынку, каб лепей чуваць было, і трасе званком моцна, доўга.

— От, каб на рэчку пабегчы, там разгон,—падае нехта думку. Але яе перабівае другая:

— Там яшчэ лёд нямоцны.

— Унь званок на заняткі ўжо. Чуеце?— перапыняе гульню нечы голас.

Раптам усё зьмешваецца. Адзін бяжыць па торбачку з кнігамі, другі папраўляе

шнуркі ў чаравіках, трэці зашпільвае гузікі ў халаце, чацьверты абору падвязвае.

Гульня скончана.

Праз хвіліну, другую бадзёрыя бягуць вучні ў школу. Іграе на іх шчоках румянец, жвавасьцю гарацьвочы. А сьмеху колькі, расказваньняў усялякіх!

У школе кожны садзіцца на сваім месцы і слухае, што гаворыць настаўнік, якія заданьні дае ён кожнай групе.

*
* *

Уважна працуюць вучні над заданьнямі, а ў Янучка адна думка. Сюд-туд ды ў вакно



Убачыў настаўнік: коўзаецца Янучок...

паглядае. Пасьля ўстаў ды папрасіўся ў настаўніка:

— Дазвольце мне выйсьці...

Настаўнік у гэты час задачу растлумачваў 3-й групе. На хвілінку адышоўся ад дошкі, паглядзеў на Янучка ды і кажа:

— Ідзі. Але зараз перапынак будзе.

З затоенаю радасьцю вышаў Янучок. Абышоў кругом школы,—ды на коўзанку.

„Добра аднаму“, думае Янучок, „ніхто не замінае, не падстаўляе ножкі, ня штурхаецца.

„І лоўка-ж я ашукаў свайго настаўніка Ніканора Антонавіча“.

Мінула хвілін дзесяць, а Янучок ня прыходзіць у школу. Здагадаўся настаўнік у чым справа.

— Сядзеце спакойна, працуйце над заданьнем, а я зараз прыду,—сказаў вучням Ніканор Антонавіч і скрыпнуў дзьвярыма.

Вышаў на ганак настаўнік ды бачыць: коўзаецца Янучок у аднэй рубашцы. Падышоў бліжэй, паклікаў спакойна.

Ідзе з апушчанаю галавою Янучок: думаў настаўніка ашукае, а той Янучка перахітрыў.

---

Астатак лекцыі Нікацор Антонавіч гаварыў пра ўчынак Янучка.

— От бачыце, да чаго свавольства даводзіць. На дварэ мароз, а Янучок пабег на коўзанку ў аднэй рубашцы. Можа прастудзіцца, захварэць.

— Гэтага мала, Нікацор Антонавіч. Ён нам спаборніцтва падрывае. Наша другая група з трэцяю заключыла ўмову не рабіць прагулаў, спазьненьняў, на занятках слухаць настаўніка, вывучаць заданьні, а ён уцёк на коўзанку...—дадаў Сымон.

Настаўнік паглядзеў у той бок, адкуль пачуўся голас яму ў дапамогу, і сказаў:





Настаўнік гаварыў пра ўчынак Янучка.

— Правільна кажа Сымонка. На ўсё свой час. Будзе перапынак — усе на двор, на вольнае паветра. Апранецеся і гуляйце. Гэта здорава для кожнага. А на занятках трэба вучыцца. І дома раней заданьні прыгатуй, а тады сьмела гуляй на вольным паветры.

Маўчаў Янучок. Таварышом у вочы глянуць ня можа. Сорамна, што ашукаў свайго настаўніка, бо Ніканор Антонавіч кожнаму вучню дабра жадае, клапоціцца аб ім, перадае набытыя самім веды. Стараецца, каб як найлепей вучань зразумеў тое, што ён выкладае, а тут такое здарэньне з ім.

— Нядобра, нядобра так рабіць,—круціць галавою настаўнік.

— Больш гэтага мы самі не дапусьцім,— кажа Піліпка. — Гэты выпадак з Янучком апошні ў нашай школе.

— Прышоў на заняткі, дык і займайся вучобаю, — дадае да Піліпкавых слоў Адасік.



# Прапалі сьняжынкі...

Пераклад В. Л.

Сьняжынкі, пушынкі
На шчочках у Нінкі.
Блішчаць на расьнічках,
Вісяць на касічках.

Маленькая Нінка
Хацела хоць трошкі
Сьняжынкі пагрэць.
Пагрэла, прыкрыла
І вось што зрабіла:—
Якая бяда!—
Прапалі сьняжынкі...
На ручках у Нінкі
Была ўжо вада.

Дзеці, чаму сьняжынкі ператварыліся ў ваду? Запытайцеся ў настаўніка, адкуль бяруцца сьняжынкі.

# Санкі

Апавяданьне дзяткора М. Барэнбаума

Надышлі асеньнія дні. Кожны дзень цярушыў дробны дождж, як праз сіта. На дварэ стала мокра, усюды гразь. Юзік з нецярплівасьцю чакаў, калі падмерзьне зямля, калі выпадзе сьнег. Кожны дзень здаваўся яму годам.

Юзіку хацелася, каб хутчэй прышла зіма.

*
* *

Аднойчы ўстаў Юзік рана і бачыць: у хаце відней стала, як тыя дні. Паглядзеў у вакно: сьнег выпаў, белае ўсё навакол стала.

„Прышла зіма, а санкі ў мяне не гатовы", успомніў Юзік. „Трэба хутчэй зрабіць санкі!" Юзік выбег у кладоўку, узяў дошку, пілу, малаток, цьвікі, долата і ўнёс усе гэта ў хату.

Сеў на падлозе і пачаў старанна выпілоўваць палазок. Доўга ён пілаваў, аж спацёў.

Але вось і гатовы полаз. Намеціў дзірачкі і пачаў долатам выбіваць іх.

Другі полаз зрабіць было лёгка, бо Юзік глядзеў на першы.

Як толькі палазы былі гатовы, Юзік выпілаваў роўненькія дошчачкі і прыбіў іх да шырокіх палазоў.

А назаўтра раніцай Юзік са сваімі таварышамі вазіўся ўжо з горкі. Яму здавалася, што яго санкі найлепшыя і яму зайздросьцяць усе хлопцы.



# Дзелімся вопытам

## Лепшыя акцябраты прэміяваны

У нашай акцябрацкай базе 297 акцябрат. Усе яны падзелены на 7 груп.

Што зроблена намі за апошні час?

Групы заключылі дагаворы на сацыялістычнае спаборніцтва.

**ЛЕПШЫЯ АКЦЯБРАТЫ.**

**ЛЕПШ ЫЯ АКЦЯБРАТЫ.**



СКРЫПНІК ЕУКА, вучань 1-й групы 9 ФЗС, прэміяваны за добрую вучобу.



ДАНЧЭНКА ЛІДА. Вучыцца ў 2-й групе 9-й ФЗС, прэміявана за добрую вучобу.

10 лепшых акцябрат-ударнікаў прэміяваны. 8 лепшых акцябрат перададзены ў піянэры.

Акцябраты праводзяць конкурс на лепшы сшытак. Але ў нас ёсьць і недахопы ў рабоце: няма важатых зорачак, не працуем у дзіцячым садзе, кепская сувязь з піянэрскім атрадам.

ФРАДКІНА.

Менск, база „Чырвоны Золак“.

# БУДЗЕМ ДОБРА ВУЧЫЦЦА

Наша група заключыла сацыялістычны дагавор з другою групаю 0—2 клясы. Раней чым заключаць дагавор, былі праведзены гутаркі аб сацыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве.

Усе акцябраты ўзялі на сябе абавязкі: добра вучыцца, прыходзіць у клясу чыстымі, не пазьніцца на заняткі і не прапускаць лекцый, сшыткі і кніжкі трымаць у чыстаце.

## ЛЕПШЫЯ АКЦЯБРАТЫ.



МІЛЬЛЕР АСЯ, вучаніца „0“ групы 1-й ФЗС.

ЛЕПШЫЯ АКЦЯБРАТЫ.



ЛІБО БІЦЯ, вучаніца 1-й групы 9 ФЗС, прэміявана за добрую вучобу.

Мы праводзім „конкурс“ на лепшы сшытак. У групе арганізавалі выстаўку лепшых і горшых сшыткаў.

Часопісі „Іскры Ільліча“ мы выпісваем 6 экз. Скарыстоўваем часопісь на зборы групы, зорачак, вывучаем сьпевы, вершы.

Сярод акцябрат праведзен збор падарункаў для вясковых дзяцей.

ЧЫГІР.

Акцябрацкая група № 1
пры базе заводу „Камунар“



КАПІЛАУ, 2 ФЗС, лепшы ўдарнік вучобы.

# ЗБОРЫ ПРАВОДЗІМ ВЕСЕЛА І ЦІКАВА

У акцябрацкай групе 0—5 клясы 1-й ФЗС (Менск)—30 акцябрат. Акцябраты падзелены на 4 зорачкі. Ва ўсіх зорачках ёсьць важатыя.

Мы наладзілі сувязь з дзіцячым садам. Дапамагаем ім у рабоце. 15-ю гадавіну Кастрычніка мы сьвяткавалі разам з дзіцячым садам. Там праводзілі гульні, дэклямацыі, сьпевы і інш.

Наша група сабрала падарункі для вёскі. Цяпер зьбіраем паперу. У клясе пастаўлены скрынкі, куды мы зносім розны папяровы хлам.

Таксама праводзім конкурс на лепшы сшытак. У клясе арганізавалі вітрыну лепшых і горшых сшыткаў.

Зборы груп і зорачак праводзяцца ў нас весела і цікава. На зборах мы наладжваем сьпевы, гульні, хадзілі некалькі разоў калектыўна ў кіно, зьвярынец.

**МЕРКІН**

## ЛЕПШЫЯ АКЦЯБРАТЫ.



ЛУЧКОЎ ВОВА, вучань „0" групы І ФЗС.

# ЗЬБЯРЭМ НЕПАТРЭБНУЮ ПАПЕРУ

**Цэнтральны Камітэт Усесаюзнага Ленінскага Камсамолу абвясьціў двухмесячнік па збору непатрэбнай паперы, стар'я, газэт, кніжак, сьпісаных сшыткаў і інш.**

**Усе акцябраты, усе вучні павінны прыняць у двухмесячніку актыўны ўдзел. Трэба сабраць як найбольш папяровага хламу.**

**На што патрэбен папяровы хлам?**

**Яго завязуць на папяровыя фабрыкі і там зробяць чыстую паперу.**

## Сабралі сотні кілёграмаў папяровага хламу

Акцябрацкая база 36-й ФЗС (Менск) уключылася ў двухмесячнік па збору папяровай макулатуры, ануч і інш. На зборах груп і зорачак праводзіліся гутаркі аб значэньні папяровага хламу, ануч для нашых папяровых заводаў і фабрык.

— Кожны павінен сабраць ня менш 4-х кілёграмаў паперы,—так пастанавілі акцябраты.

Адны групы выклікалі другія на сацспаборніцтва па збору макулатуры.

Збор макулатуры даў вялікія вынікі: сабрана некалькі сот кілёграмаў паперы.

З. Б.

# НАВОШТА УЦІЛЬ

Верш дзяткора Я. Кляцко

Сёньня пытаньне
На сходзе стаяла,
Каб нашая школа
Уціль сабірала.

Косьця з Аленкай,
Прышоўшы дахаты,
Усё расказалі
Пра ўціль свайму тату.

Бацька пытае
Ў Аленкі і Косьці:
„Куды і навошта
Уціль гэты пойдзе?“

І разам сказалі
Аленка і Косьця:
„На выраб тавараў
І кніжак нам пойдзе!“

## Няма ўцільпунктаў

3-я група 28-й ФЗС (Віцебск) уключылася ў двухмесячнік па збору непатрэбнай паперы,ануч і інш.

Але-ж вынікаў ніякіх няма, бо вылучаная групавая тройка не ўзялася яшчэ за работу. Вучні, якія прыносілі ўціль, забіралі яго назад, бо каля школы нікога ня было. Пры школе няма ўцільпунктаў, куды-б маглі вучні зносіць уціль.

Вылучаная тройка павінна добра працаваць. Патрэбна арганізаваць уцільпункт ня толькі пры школе, але і пры кожнай групе. М. ВІЦЕНЗОН.




Нарыс М. Нікановіча
Малюнкі Эйдэльмана

У зале, залітай сонечнай электрыкаю, упрыгожанай квітнеючымі лёзунгамі, было людна і ўрачыста. Над морам галоў стаяў стрыманы раўнамерны, але дружны гул галасоў. Твары людзей былі абсівераныя, загарэлыя, мужныя. Відаць, што толькі за гадзіну-дзьве таму назад гэтыя людзі пакінулі сваю машыну, нават некалі было змыць ім з рук і з твару мазуту. Прышлі ў залю з душком бэнзынавага перагару, захапіўшы, праўда, з сабою шырокую радасьць і вялікі гонар пачэснага байца на дарожным фронце, гонар лепшага ўдарніка транспарту.

* * *

Перад маімі вачыма з хуткасьцю маланкі праносіліся ўсё новыя і новыя твары, да таго-ж усе аднолькавыя, а між іншым кожны так непадобны адзін на другі.

У таго вось чорныя, чорныя вочы, спрытна падстры-

жаныя вусы, а ў таго бялявы твар і па-дзіцячаму кірпаваты нос, а ў таго шэрыя вочы і... і... ды што-ж гэта такое?..

Няўжо?! Няўжо я памыляюся? Шрам на шчацэ... Так яно і ёсьць... Гэта ён, ён мой мілы, дарагі таварыш мой, брат мой!.. Разам бяспрытульнымі былі, разам-жа нас пад Данбасам з-пад паравозу выцягнулі.

А шрам? Шрам ён атрымаў тады, калі аднойчы, бягучы ўпацёмках па стрэхах вагону, пасьлізнуўся і, зваліўшыся з страхі, тварам зачапіў за ражок бляхі, што з нумарам вагону...

Але як-жа гэта?! Няўжо-ж гэта мой любы Ванька Гак?!.

І я пачаў праціскацца наперад.

Раптам адкрылі паседжаньне. Ванька перамяшаўся з агульнай масай падобных адзін на аднаго людзей і... я згубіў яго з вачэй зусім.

* * *

Я ўвесь час шукаў вачыма Ваньку. Ды дзе-ж яго знойдзеш у такім натоўпе?!

Зноў і зноў прамільгала перад маімі вачыма ўсё наша жыцьцё.



Ванька-бяспрытульнік.

Гэта-ж мы з ім здружыліся на Украіне, куды паехалі ў галодны год здабываць хлеб. Потым пайшлі ў кампанію бяспрытульных. Пражылі так год, здалі экзамэн на адмысловага „карманшчыка“. Потым, пакінуўшы хэўру, пачалі жыць толькі ўдваіх, „зараблялі“, ня дрэнна і думалі пражыць так усю моладасьць, — мы ўжо навучыліся ненавідзець і работу, і людзей.

Аднак...

А калі вялі, Ванька шаптаў мне:

— Глядзі, Колька, у мяне фінка. Усёроўна пырну і дам маху. Трымайся мяне.

Але так ня збылося, як меркаваў Ванька. Нас на станцыі разлучылі. Мяне адправілі ў Маскву з першым-жа цягніком у дзеткалёнію, а Ванька... Ды пра Ваньку вось ужо дзевяць гадоў як нічога ня чуў.

І думалася тады рознае.

* * *

Каб ня згубіць мне Ваньку, — я вышаў з залі і стаў ля дзьвярэй. Пасьля прэміроўкі і ўрачыстасьці зьлёт ударнікаў скончыўся. Павалілі да выхаду.

Вось ён! А мо' і ня ён? Гэта-ж сталы, стройны мужчына. Але рысы твару, рысы, якія ніколі, ніколі не забудзеш... Шрам гэты памятны. Параўнаўся са мною.

— Ванька!..—крыкнуў я ад радасьці. — Ванька Гак! (Прозьвішча ў яго было другое, а гэта — ад бяспрытульнасьці).

Ён утаропіў на мяне свае вочы.

— Пазнаеш?



Ён утаропіў на мяне свае вочы.

— Не!.. Але пачакай, пачакай... Хадзі сюды, хадзі... Колька!.. Шарамыжнік ты мой!. І, выкінуўшы з рук скураны гарнітур, прэмію, ён ашчаперыў мяне, нешта гаварыў і... заплакаў.

Калі супакоіўся, дык расказаў свой шлях, які прайшоў за дзевяць гадоў ужо без мяне.

— Абы была сіла волі, ахвота працаваць, а для нас сёньня дзьверы адчынены куды толькі хочаш... Я ўжо думаў, што век у басякох пражыву, аднак вось бачыш...—і паказаў мне на гарнітур.

— Вось ужо чацьвертая, браток, прэмія...

— Як я рад, як я рад!..—шаптаў я.

— А я ўжо сёньня ў партыю падаў заяву. Працую на дарбудзе, а ты дзе?..

— І я там!

— Руку, таварыш!..

І я ад усяго сэрца пацісьнуў жорсткую руку шофэра, майго таварыша, сёньня зусім для мяне брата аднэй шматмільённай арміі працоўных.



# АЎТАМАБІЛЬ



Верш Я. Хомчанкі.

Заняты работай
Маленькі Віль.
Зрабіць ён ахвотнік
Аўтамабіль.
Цэлымі днямі
Майструе матор,
Сваімі рукамі
Робіць аўто.
У кнігу—падручнік
Віль паглядае,
Пільна, уважліва
Дошку стругае.
Рубанак габлюе
Лёгка і спраўна
Віль працуе
Вельмі старанна.
Вось ён рызіну
На вось накруціў,—
Аўтомашына
Будзе ісьці!
Вось чуецца ляскат,
Пабег аўтамабіль.
Добрая каляска!—
Радуецца Віль.

# РОТ ФРОНТ

Верш І. Вараб'ёвай

Гэта адбылося ў нямецкай школе. Настаўнік захацеў даведацца, якую партыю паважаюць яго вучні, за каго яны будуць галасаваць. Ён раздаў вучням анкеты. Вучні павінны былі запоўніць гэтыя анкеты і здаць бяз прозьвішчаў. Настаўнік перад гэтым расказваў вучням пра партыі і раіў падаць голас за фашыстаў, якіх вельмі хваліў.

Але... большасьць галасоў было пададзена за камуністаў. Настаўнік траха ня страціў прытомнасьці пасьля гэтага. А ўсе вучні падняліся і закрычалі: „Рот фронт"! (чырвоны фронт). Пра гэта пісалася ў газэце „Праўда".



За сталом пэдагог фон-Зам,
Ён паважны—суровы сам.
Дзесяць гузікаў—зоркі ў рад—
На ягоным мундзіры гараць.
Ён узьняў таўстую руку,
Ашчаперыўшы пук анкетаў.
Трыццаць скруткаў, чыстых
пакуль,
Ён трымае ў руцэ у гэтай.
Моўчкі рухі ягоныя ловяць
Трыццаць хлопчыкаў белагаловых.

Ціха ў клясе... ні сьмеху... Ды вот
Раскрывае настаўнік рот:
„Я хачу,—абвяшчае фон-Зам,

І да вучняў гаворыць сам,—
Каб з вас кожны запоўніў гэту
Маленькую анкету“.

Тут настаўнік прыцішыў голас
Ды пальцамі стол пакратаў:
„Вы ўжо чулі ня раз у школе
Пра партыю сацыял-дэмакратаў,
І пра партыю нацыяналістаў
(Паважаных усімі фашыстаў),
І пра партыю нам варожую—
Бальшавікоў-камуністаў,

. . . . . . . . . . . .

А цяпер, мае вы харошыя,
Каб загадзя падрыхтавацца,
Зробім практыкаваньне:
Пакажэце свае мастацтва
У патаемным галасаваньні.
Бо час-жа не за гарамі.
І гадоў праз шэсьць або пяць
І вы ў сапраўдны парлямант
Будзеце выбіраць“.

. . . . . . . . . . .

Весялеюць маркотныя твары
І Альфрэда, і Франца, і Гары.
Ніколі ні Франц, ні Альфрэд
Ня пісалі гэткіх анкет.

Ціха... Нечы адно „чы-ых!“
Прагучэў ды ізноў сьціх.
Ані сьмеху... Прыціхла школа...
Раптам чутны фон-Замаў голас:

„О, панове, я маю веру
(Нехта выткнуў свой нос у дзьверы),
Што і зараз вы і надалей,
(Хлопцы ціханька папрысядалі)
Як усякі, хто вучыцца ў школе,
Так і вы падасьце свой голас
За тую з названых партый,
За якую падаў-бы і патэр,
І ня толькі шаноўны інспэктар,
Але й сам нават пан дырэктар.
Так, і сам нават пан дырэктар!
І вядома за гэты-ж голас —
Паважаная рада школы.

. . . . . . . . . . . .

Анікому цяпер не сядзіцца,
Ні Альфрэду, ні Францу, ні Фрыцу.
Вось адзін за адным устаюць
І анкеты хутка бяруць.





Не гаворачы лішніх слоў,
Трыццаць школьнікаў, трыццаць
хлапцоў.
А, чакаючы, праз увесь пакой
Настаўнік павольна крочыць,
На твары—паважны спакой.
І рахмана-ласкавыя вочы,
Дзесяць гузікаў — зоркі ў рад—
На ягоным мундзіры гарадь.
. . . . . . . . . . . . .

Мо' прайшло адно пяць мінут,
Падымаецца з лавы Брут.
— Я ўжо тут усё напісаў, —
Да настаўніка вучань сказаў.
Вось узьняўся за Брутам Майсей,
І Альфрэд, і худы Ральцоў,
„Мы ўжо скончылі",—кажуць усе
Трыццаць школьнікаў, трыццаць
хлапцоў.
. . . . . . . . . . . . . .

Вось паважна бярэ пэдагог
За анкетным лістком лісток.

Вось чытае настаўнік анкеты...
Ды адскочыўся раптам узад:
Там у кожнай—і ў той, і ў гэтай—
Хлапчукі галасуюць за...
За...—настаўнік паветра ловіць.
Пабялеў тады твар яго потны,
Закруціліся лавы, вокны
І бялявых дзяцей галовы.
За... чытаў, ня чуючы ног
Пад сабою, стары пэдагог...
. . . . . . . . . . . . .

І пачуўся ня шэпат, а сьвіст:
„Бацька ў вас у каго... камуніст?
У каго ў вас?..“
Паўскаквалі ўсе,
І Францыск, і Альфрэд, і Майсей,
Ды ў адказ, як адзін, кулакі
Пасьціскаўшы, бязвусыя бальшавікі
Пракрычалі на ўвесь рот:
„Рот-фронт! Рот фронт! Рот...“

**Пераклад Ц. ЗАЛІВАКІ.**



# Вучнёўская песьня

Бадзьёра.

кож-ных со-рак пяць хві-лін мы у кля-се

як ад-зін. Сьцеп-ка, Грыш-ка і Аль-жбе-та тут зма-га-юц

ца за ве-ды

Словы М. Калачынскага
Музыка С. Палонскага

Толя, стаўшы каля дошкі,
Расказаў будову мошкі.
Але вось ужо званок
Зазьвінеў—канчай вурок!
Гуртам з клясы выбягаем
Ды у гульні пачынаем.
Юрка, я, а з намі—Роба
Любім гульні „ў вучобу“.
Мы гуляем—ня дурэем } 2 разы
І вучыцца добра ўмеем.

# Шануй каня

— Пры трактарах коні не патрэбны, — кажуць нашы ворагі, якія ўсялякімі спосабамі хочуць сарваць наша будаўніцтва.

У нас працуюць ужо два вялізарныя трактарныя заводы. Яны выпускаюць удзень каля 300 трактароў. Але наша краіна такая вялікая, што гэтых трактароў нам яшчэ мала, каб урабіць усю зямлю.

Вялікая частка работы прыпадае на долю каня. Трактар робіць самую цяжкую работу ў полі, — ён арэ, а на лёгкую работу—баранаваньне, сяўба—патрэбен конь.

Конь патрэбен ня толькі ў полі, а і для абароны краіны.

Усе ведаюць слаўную коньніцу Будзённага, многа песен пра яе сьпяваецца.

Бяз коньніцы на вайне не абыйсьціся. Савецкі ўрад выдаў спэцыяльную пастанову аб тым, каб з канём абыходзіліся добра, шанавалі, даглядалі яго.



**Худым замораным становіцца конь ад цяжкой работы і кепскага догляду. Такі конь мала дасьць карысьці ў сельскай гаспадарцы, і для арміі ён не гадзіцца.**

**Пародзісты конь, выгадаваны на конскім заводзе. Яго ўважліва даглядалі, кармілі па нормах і своячасова, правільна чаргавалі адпачынак з работай.**



У кавалерыйскіх часьцях чырвонаармейцаў навучаюць, як даглядаць каня. Кожны чырвонаармеец ведае свайго каня і добра даглядае яго — кожны дзень чысьціць, акуратна корміць і поіць.

Нам патрэбны здаровыя і дужыя коні. А шмат дзе не даглядаюць як сьлед коняй. Не шануюць іх, спадзяюцца на трактары. Гэтага не павінна быць. Конь патрэбен у сельскай гаспадарцы, ён ня вораг трактару, а найлепшы памочнік. На вайне конь памочнік танку.

Дзеці, шануйце каня! Сачэце за тым, каб вашы бацькі добра даглядалі коняй, каб вясною ўсе коні калгасаў былі гатовы да сяўбы.

**Такіх коняй мы будзем мець ад злучкі простага сялянскага каня з пародзістым. Гэта здаровы дужы конь, патрэбны нам для работы ў полі і для абароны нашай краіны.**





**АГУЛЬНЫ ВЫГЛЯД ЭЛЕКТРАСТАНЦЫ**

Асобныя часткі сагнеце па белых лініях, як паказана на левай старонцы. Чорныя палоскі скруцеце ў трубачкі,—гэта будуць коміны электрастанцыі. Цяпер коміны ўстаўце ў верхнія белыя дзіркі 1, 2, 3, 4. Устаўляйце так, каб яны канцамі папалі і ў ніжнія дзіркі—тады яны будуць лепей трымацца. На верх на кожны комін надзеньце па адным кружочку 5, 6, 7, 8.

Калі ўсё гэта зробіце—электрастанцыя гатова

**Адказы на загадкі чытай у № 1.**

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
"ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Цана 18—18 кап.

10к

37

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

НА 2-х ТЫДНЁВУЮ ІЛЮСТРАВАНУЮ АКЦЯБРАЦКУЮ

ЧАСОПІСЬ

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

## ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

друкуюць апавяданьні, вершы, нарысы, песьні, п'ескі, гульні і іншыя матар'ялы для дзяцей акцябрацкага ўзросту.

З новага году ў кожным нумары часопісі будуць зьмяшчацца допісы і нарысы аб рабоце акцябрацкіх груп.

ПАДПІШЧЫКІ НА ЧАСОПІСЬ

**ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА**

атрымаюць у 1933 годзе ня менш 6 дармовых дадаткаў (гульні, п'ескі і інш.)

**УСЕ ДЗЕЦІ ПАВІННЫ ЧЫТАЦЬ СВАЮ ЧАСОПІСЬ**

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ ПАДПІСАЦЦА НА ЧАСОПІСЬ НА 1933 ГОД**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 1 месяц (два нумары) | 40 кап. |
| „ 3 „ | 1 р. 20 „ |
| „ 6 „ | 2 р. 40 „ |
| „ 1 год | 4 р. 80 „ |

**ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ І ЛІСТАНОСЦАМ**

Друкарня імя Сталіна Зак. № 3126 7740 экз. Менгарліт № 1440